Год III. Кастрычнік 1934 г. № 10 (34)




Ты єси Петръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Мата. ѕі. иі.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.

Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.

Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Кастрычнік 1934 г. № 10 (34).

# Нядзеля 21 па Сёмусе.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
## *ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 8, 5—15. ЗАЧАЛА 35.*

5. Выйшаў сяйбіт сеяць семя сваё; і калі ён сеяў, іншае ўпала пры дарозе і было патоптана, і птушкі нябесныя паклявалі яго;

6. а іншае ўпала на камень і ўзыйшоўшы засохла, бо ня мела вільгаці;

7. а іншае ўпала між церняў, і разам узыйшоўшы, церні заглушылі яго;

8. а іншае ўпала на добрую зямлю і ўзыйшоўшы прынясло плод у сто раз. Сказаўшы гэта, заклікаў: хто мае вушы, каб слухаць, няхай слухае.

9. Вучні-ж Яго спыталіся ў Яго: што-б значыла прыповесьць гэтая?

10. Ён сказаў ім: вам дадзена ведаць тайны Царства Божага, а другім у прыповесьцях, так што яны бачачы ня бачаць і чуючы не разумеюць.

11. Вось што значыць прыповесьць гэтая: семя ёсьць слова Божае.

12. А што пры дарозе — гэта тыя, што слухаюць, ды пасьля прыходзіць дзьябал і забірае слова з сэрца іх, каб не паверылі і не спасьліся;

13. а ўпаўшае на камень гэта тыя, каторыя як пачуюць слова, дык з радасьцяй прыймаюць, ды ня маючы караня часова вераць, а ў час спакусы адпадаюць;

14. а ўпаўшае ў церні — гэта тыя, што слухаюць слова, але адыйшоўшы бываюць заглушаны клопатамі, багацьцем і ўцехамі жыцьця і не даюць плоду;

15. а ўпаўшае на добрую зямлю — гэта тыя, што пачуўшы слова захоўваюць у добрым і чыстым сэрцы і даюць плод у цярплівасьці.

---

Гэтаю прыповесьцю Сам Госпад Наш Ісус Хрыстос даў нам навуку аб сваім Боскім Слове і аб розным дзейнічаньні гэтага Слова на чалавечыя сэрцы.

Што такое Слова Божае? „Семя ёсьць Слова Божае,“ — кажа Хрыстос, — гэта духовае семя, ад якога пачынаецца і ўзрастае новы духовы чалавек, зроджаны „ня з тлеючага насеньня, але з нятленнага, праз Слова Бога жывога і прабываючага да веку“ (I Петры 1—23). Бо гэтак сама, як у сьвеце матар'яльным усё родзіцца і паходзіць з насеньня, так і ў духовым сьвеце новы чалавек, створаны **„по Богу въ правдѣ и преподобіи истины,“** адраджаецца ў новае жыцьцё пропаведзьдзю Слова Божага, слова веры і збаўленьня, слова жыцьця і несьмяротнасьці. Голая і няпрыгожая сама па сабе зямля: але кіньце ў яе насеньне,— і яна ўкрыецца расьлінамі. Мёртвая і няпрыгожая сама па сабе і грахоўная прырода ўпаўшага чалавека; толькі цярніны нячыстых думак і пачуцьцяў, грахоў і несправядлівасьцяў выдае яна: але калі пасеяць на ёй семя Слова Божага, калі зросіцца яна ласкаю Прасьвятога Духа, тады апранаецца яна, як ў прыемную зеляніну, ў адзежу сьвятых думак, набожных пачуцьцяў і чалавекалюбных ды богалюбных замераў і жаданьняў, яна выдае пахнючасьць кветак цнотаў, на ёй сьпеюць духовыя плады, — **„любоў радасьць, мір, доўгацярплівасьць, дабрата, міласэрдзе, вера, ціхасьць, паўзьдзержлівасьць“** (Галят. 5—22,23).

Скажаце, браты: „Бачым сяўбу, а дзе-ж плод?“ Слова Божае мае перашкоды. Першая перашкода пладатворчасьці Слова Божага — ёсьць лёгкадумства і гультайства тых, хто слухае Слова Божае; у іх душа і сэрца, як-бы вялікая дарога, адкрытая для ўсіх праходзячых думак і ўражаньняў, яны заўсёды, як быццам пры дарозе, заўсёды жадаюць новых уражаньняў, featureзнага роду адчуваньняў, займаюцца толькі ўсё новымі і новымі заняткамі і забавамі. Ня дзіва, што ў гэткім сэрцы і ў гэткай душы семя Слова Божага ня можа доўга ўтрымацца. Ёсьць і іншыя перашкоды пладатворчасьці Слова Божага, а гэта — самалюбства, якое слухае ахвотна Слова Божае, пакуль Яно не

вымагае ад яго ахвяры; гэткае сэрца толькі звонку чулае, а ўнутры халоднае і жорсткае, як камень, пакрыты тонкім слоем зямлі. У гэткіх Слова Божае ня можа заглыбіцца і даць плод.

Нарэшце, больш агульная перашкода пладатворчасьці Слова Божага ёсьць цярніны пустаты і палкасьцяў. Прывязанасьць да зямнога праяўляецца ў адных: ў бязустанным клопаце аб набываньні багацьця і зайздрасьці да багатых, а ў другіх: у клопаце аб захаваньні і памножаньні багацьця. Як ў тым, так і ў другім выпадку гэта густыя цярніны, якія абцяжваюць сэрца і заглушаюць у ім кожнае добрае пачуцьцё.

І толькі набожнае прыйманьне Слова Божага добрым і чыстым сэрцам здольнае ёсьць даваць плады сьвятасьці і праўды.

І таму Збаўца наш закончыў сваю прыповесьць словамі: **„Хто мае вушы каб слухаць, няхай слухае“.** Амін.

---

# Дзе пахованы апосталы?

У часе раскопак у царкве сьв. Іоана ў Эфэсе неспадзявана знойдзены гроб сьв. Іоана Эвангеліста.

Месцы спачываньня астанкаў большасьці іншых апосталаў вядомыя чалавецтву ўжо даўно.

Целы сьвв. Пётры і Паўла,—як усюды вядома,—спачываюць у Рыме, пад цэрквамі іхнага імя, а галовы мучанікаў перахоўваюцца ў каштоўнай скрыні на Лятэране, называным з гэтае прычыны „галавою ўсіх цэркваў“ або Капітолем Хрысьціянства.

Гроб сьв. Лукі, які паважаецца легендаю таксама, як маляр Сьвятое Сям'і, знаходзіцца ў Тэбах, у Грэцыі. Цела Апостала Андрэя ляжала да 1460 году ў катэдры ў Патрас над Карынфскаю затокаю. Каб цэнныя рэлíквіі не папалі ў рукі Туркаў, іх перавязьлі ў Амальфі, а галаву апошні з Палеолёгаў праз пару гадоў пазьней завёз у Нарні, адкуль Папа з урачыстай працэсіяй справадзіў яе да базылікі сьв. Пётры ў Рыме.

У Рыме, у царкве сьвв. Апосталаў спачываюць сьв. Піліп і сьв. Якаў Малодшы, а гроб Якава Старшага знаходзіцца ў Сантіаго-ді-Компостэльля і зьяўляецца мэтаю пілігрымак усяе Гішпаніі і Партугаліі.

Эвангеліст Марак быў пахованы ў Александрыі Эгіпэцкай. У пачатку IX веку маладая Вэнэцыянская Рэспубліка перавязла да сябе яго цела і абвясьціла сьв. Марка патронам краю. У 836 годзе пачалося будаваньне царквы,

прызначанае дзеля перахаваньня цэнных рэліквіяў. Будова ішла 80 гадоў і каштавала штогоду 800 дукатаў. Дож Кандіано загадаў умураваць рэліквію ў адзін з філяраў так, каб апрача яго ніхто ня ведаў гэтага месца. У панаваньне Віталіса Фаліеры ў 1804 годзе іх знайшлі выпадкова і выставілі на публічны агляд. Пасьля іх ізноў замуравалі ў філяр каля галоўнага аўтара. (Рым. КАП).

---

# У Савецкай Расеі.

## Новыя рэлігійныя прасьледаваньні і зьдзекі.

Паводле вестак, атрыманых Каталіцкаю Прэсоваю Агенцыяй з Масквы, на абшарах жытомірскае і камянецкае епархіяў засталося яшчэ сотні тысяч каталікоў, але адчуваецца вялікі недахоп сьвяшчэньнікаў. На ўсёй гэтай вялізнай тэрыторыі, якая мае шмат незачыненых савецкаю ўладаю цэркваў, працуе ўсяго толькі 20 сьвяшчэньнікаў. Адсюль вынікае няўхільная патрэба, каб гэтыя сьвяшчэньнікі аб'яжджалі асірацеўшыя прыходы і цэрквы, сьпяшаючыся з рэлігійнаю паслугаю, якое гэтак усе жадаюць. Але ў гэтай акцыі стаіць на перашкодзе заведзеная апошнім часам абавязкавая рэестрацыя сьвяшчэньнікаў, без выпаўненьня якое сьвяшчэньніку нельга спаўняць аніякае, хоцьбы і вельмі пільнае і нават малое рэлігійнае функцыі. Рэестрацыя гэта вымагае заўсёды запісвацца і выпісвацца ў г. зв. Аддзеле Культу. Калі сьвяшчэньнік на самы кароткі нават час выяжджае з свайго прыходу, дык павінен аб гэтым выезьдзе заявіць, а калі прыедзе ў якую-нібудзь мясцовасьць, нават на колькі гадзін, дык павінен заявіць аб гэтым прыезьдзе. Ясна, што побач з гэткімі заяўкамі ідуць нязьлічаныя зьдзекі і труднасьці. Няраз сьвяшчэньнік цэлымі тыднямі стараецца аб заяўцы, зрабіць якую яму нарэшце адмаўляюць. Тады сьвяшчэньнік мусіць пакінуць дануюмясцовасьць і выехаць далей. Бываюць выпадкі, што намечаная візытацыя, з гэткіх прычын, зусім не адбываецца.

Апошнім часам заведзены новыя завостраньні пры рэестрацыі. Здавалася-б, што рэлігійныя паслугі можна было-б даваць іншым парадкам: калі ўжо сьвяшчэньнік зьяўляецца прывязаным да месца, дык хай-бы верныя кіраваліся да яго. І, праўда, доўгі час гэтак сабе давалі раду, аж пакуль бальшавікі ня выдалі забароны ўсялякага роду пілігрымак, або г. зв. „паломничествъ,“ а пілігрымкаю лічыцца кожная, хоць-бы з некалькіх асобаў зложаная, група людзей, якія кіруюцца разам да месца знаходжаньня сьвятыні або прабываньня сьвяшчэньніка. Дык палажэньне вытварылася страшэннае: ні сьвяшчэньнік ня можа ісьці

з рэлігійнымі паслугамі да верных, ні верныя ня могуць наведаць сьвяшчэньніка.

У эпоху заключаньня ўрадамі цывілізованых дзяржаваў дагавораў з Саветамі, дзіўна неяк, што ніхто не падумае аб лёсе няшчасных вызнавальнікаў Хрыста на абшары савецкае дзяржавы.

### Палажэньне работнікаў у бальшавіцкім „раі.“

Першым актам трыумфуючага бальшавізму было падпарадкаваньне прафэсіяльных саюзаў камуністычнай партыі. Праз некалькі гадоў саюзы гэтыя пачалі бунтавацца: патрэбавалі ў рамках „пяцьгадовага пляну“ (пятилетка) падвышэньня платы на 60 проц., а таксама і аховы „ад бюракратычнае пагарды з боку некаторых кіраўнікоў дзяржаўнае прамысловасьці, выказванае ў адносінах да патрэбаў работнікаў і вураднікаў.“ Адсюль ясна, што пад „дыктатураю пролетарыяту“ работнікі блага аплачваюцца і з пагардаю трактуюцца.

У адказ на гэтыя, зусім зразумелыя, дамаганьні, савецкія ўлады далі адстаўку тав. Томскаму, абвінавачваючы яго, што ён „соцыяль-дэмакрат,“ а гэткі закід звычайна вядзе да кары сьмерці ў гэтым соцыялістычным раі. На будучыню прафэсіянальным саюзам паставілі задачаю: утрыманьне дысцыпліны працы, уздыманьне запалу і прадукцыйнасьці працы „ударных брыгадаў“ цераз соцыялістычнае спаборніцтва („соціалистическое соревнованіе“), барацьбу проці „дробна-мяшчанскага духу“ сярод работнікаў, бо работнікі глядзяць на савецкую дзяржаву, як на капіталістычную і імкнуцца да таго, каб даць якнайменш працы, а браць якнайбольш грошай. Апрача гэтага, уведзены яшчэ і чыста драконаўскія меры: работніка, які ня зьявіцца на работу хоць адзін раз, бяз прызнанай за важную прычыны, зараз-жа звальняюць, разам з пазбаўленьнем яго карткі на прадукты і выганяюць з кватэры, г. зн. мораць яго голадам і выкідаюць на вуліцу.

Новы дысцыплінарны кодэкс для савецкіх чугуначнікаў кідае характарнае сьвятло на адношаньне ўладаў да працаўнікоў (Зборнік Законаў СССР, за 1933 г. арт. 206). Гэтак, напр., начальнік, апрача выгавару, звальненьня і разжалаваньня, можа пакараць яшчэ і арыштам на 20 дзён. Пакараны можа жаліцца вышэйшаму начальніку, рашэньне якога зьяўляецца ўжо безапэляцыйным. Камітэты пасярэдніцтва, суды працы, паўстаўшыя ў пачатку рэвалюцыі, сягоньня ня граюць ніякае ролі.

Соцыялістычная прэса паашуканску выказвае жаль над лёсам работнікаў у Італіі, а асабліва ў Нямеччыне, праходзячы аднак-жа моўчкі над тыраніяй, якую мусяць выносіць работнікі ў Саветах.

## Вострая крытыка загранічных экскурсіяў у Саветах.

Венская газэта „Reichpost" піша, што вядомы бальшавіцкі пісьменьнік Ільля Эрэнбург нядаўна апублікаваў нязвычайна адважны пратэст проці тэндэнцыйнага абдурваньня чужаземцаў, якія прыяжджаюць у Савецкі Саюз, дзе ім фальшыва прадстаўляюць адносіны, пануючыя там. Афіцыяльнае савецкае турыстычнае бюро,– піша Эрэнбург, — ствараае для чужаземнага падарожнага фікцыйны сьвет, абкружае яго атмосфэраю такога, які ня істнуе, дабрабыту і танных прыемнасьцяў у той час, як голад і гразь ёсьць звычайным удзелам шырокіх масаў у Савецкім Саюзе. Для чужаземцаў пазакладалі готэлі, дзе яды ёсьць, колькі хочаш, дзе грыміць музыка, увечары адбываюцца танцы і іншыя гульні, затое старанліва ўтойваюцца перад цікавым турыстам месцы, якія для яго не празначаны. Ён ня бачыць парожніх складаў, гора людзей, грубасьці ўва ўзаемных адносінах чалавека да чалавека...

## За 6 гадоў два мільёны ахвяраў.

Паводле вестак, узятых з афіцыяльных савецкіх дакумэнтаў, за 1917—1923 гады загінула ў Расеі агулам 1.761.066 чалавек. Гэта ўсё ахвяры тэрору, праводжанага чырвонымі ўладарамі Саветаў. Вышэй названы лік ахапляе: 25 япіскапаў, 1.215 сьвяшчэньнікаў, 6.575 настаўнікаў, 8.800 дактароў, 54.850 афіцэраў, 260.000 салдатаў, 10.500 паліцэйскіх, 448 тысяч жандароў, 19.850 вураднікаў, 344.250 інтэлігентных працаўнікоў, 815.000 сялян, 192.000 работнікаў.

Лічбы гэтыя зьяўляюцца вельмі вымоўнымі, калі ўзяць пад увагу савецкі гуманітарызм, які гэтак стараюцца дakaзаць апошнім часам прыяцялі бальшавіцкае сыстэмы.

## Максім Горкі характарызуе савецкую літэратуру.

З прычыны зьезду бальшавіцкіх пісьменьнікаў у Ленінградзе, Горкі гэтак ахарактарызаваў сваіх таварышоў пяра: „Поэт Павал Васільеў абвінавачаны, што носіць у сабе консэрватыўныя ідэі, поэт Сяргей Васільеў напіваецца і зьдзекуецца над сваёю жонкаю, поэт Яраслаў Сьмелякоў знаходзіцца пад упльвам тэорыяў Паўла Васільева, ворага пролетарыяту і граэнага рэнэгата буржуазнае літэрацкае цыганэрыі, таксама напіваецца і не вядзе сябе, як добры камуніст. Поэт Аўслендэр прычыніўся да трагічнае сьмерці пісьменьніцы Панцялеевай, а пісьменьнікі Панчэнка, Альтшулер, Цыгельніцкі і Зарубін толькі сеюць непаразуменьні паміж таварышамі. Олеша, Нікулін і Катаеў лепш п'юць, як пішуць."

Гаворачы пра молддзь, Горкі лічыць яе палажэньне распачлівым: „Занепадае ўсякая дысцыпліна, моладзь ня хоча працаваць і кідае вучыцца. Недахоп культуры прызнаны ледзь ужо не за гонар."

**Прыгожая прамова на зьезьдзе і... прыгожая вільля на Капры.**

Максім Горкі, будучы старшынёю на зьезьдзе савецкіх пісьменьнікаў у Маскве, сказаў прамову, у якой, паміж іншым, выразіўся гэтак: „Мы зьяўляемся ворагамі прыватнае ўласнасьці, агіднага, страхатлівага ідала буржуазнага сьвету і ворагамі зоолёгічнага індывідуалізму, які падтрымлівае культ гэтага ідэала."

У сувязі з гэтым выразам Горкага „Osservatore Romano" іронічна заўважвае, што „вораг прыватнае ўласнасьці ў савецкім раі, калі справа датычыць пекла на Капры, зусім не адмаўляецца ад свае прыгожае вільлі, зьяўляючыся, — о, няшчасьце, — вызнавальнікам страхатлівага ідала."

Гэтак выглядаюць камуністычныя прынцыпы ў тэорыі і практыцы.

Як ведама, Максім Горкі мае на востраве Капры цудоўны палацык, які ён купіў яшчэ да вялікае вайны ў гэтай італьянскай мясцовасьці за свае вялізарныя гонорары, браныя ім ад „буржуазных" расейскіх выдавецтваў.

**Жыды ў Саветах. (Масква).**

Урадовы орган Агульнага Саюзу Жыдоўскае Моладзі „Шалом" апошнім часам зьмясьціў дэклярацыю тав. Аршанскага, які выказваецца ад імя пролетарскіх жыдоўскіх пісьменьнікаў. Аршанскі выхваляе палітыку Саветаў на карысьць жыдоў. Жыдоўскае жыхарства складае 4 проц. жыхароў усяго Савецкага Саюзу і дзеля гэтага цыфры, прыведзеныя Аршанскім, зьяўляюцца доказам высілку, зробленага чырвонымі тыранамі Расеі дзеля ўмацаваньня камуністычных асноваў саветызму, фаворызуючы настолькі жыдоў, што тактыка гэткая была прычынаю гвалтоўных выступленьняў шчыра-расейскага жыхарства проці іх. Часопіс „Шалом," малюючы разьвіцьцё культурнага жыдоўскага жыцьця пад уладаю саветаў, піша: „Нідзе ў іншым месцы, ува ўсім нашым расьсеяньні, не зрэалізована гэтак цалком прыхільная для жыдоў сыстэма."

Паводле словаў Аршанскага, ў аднэй толькі Украіне савецкія ўлады залажылі 800 жыдоўскіх школаў з 200.000 вучняў; настаўнікаў у гэтых школах ёсьць 4.000. На Украіне жыды маюць унівэрсытэт, земляробскі інстытут, акадэмію і тры заўсёдныя ўрадовыя тэатры. Тав. Аршанскі даходзіць у сваім артыкуле да гэткіх вывадаў: „Гэткія рэзуль-

таты дасягаюцца толькі пад дыктатураю пролетарыяту. Няхай усе тыя за граніцаю, хто любіць літэратуру жыдоўскую, пролетарскую і рэвалюцыйную, ведаюць, што шырокае разьвіцьцё гэтае літэратуры ў Польшчы і ў Амэрыцы будзе магчыма толькі тады, калі ў гэтых краёх запануе дыктатура пролетарыяту."

Прыгожая пэрспэктыва для Польшчы і Амэрыкі!

**Калі трывога, дык да Бога. (Масква).**

З прычыны страху, што ў шмат якіх ваколіцах Расеі могуць прапасьці зборы з палёў, савецкія ўлады загадалі ўва ўсіх земляробскіх краінах Савецкага Саюзу г. зв. „тыдні ратаваньня збораў." Загад гэты жыхары зразумелі ў сэнсе рэлігійным і пастанавілі падтрымаць ратаваньне збораў малебнамі і рэлігійнымі ўрачыстасьцямі. У гэтым выпадку савецкія ўлады, ня гледзячы на свае бязбожніцкія лёзунгі, выказалі проста незразумелую толеранцыю, дайшоўшую да таго, што ў шмат якіх мясцовасьцях рэлігійныя працэсіі па палёх адбываліся па выразнай згодзе гэтых уладаў. Савецкая прэса, нават не крытыкуючы і захоўваючы рэзэрву, паведамляе, напр., што ў Яранскім колектыўным вокрузе над Волгаю мясцовыя ўлады далі афіцыяльнае пазваленьне на працэсію па палёх пад кіраўніцтвам сьвяшчэньніка. Працэсія гэта абярнулася ў нязвычайна ўзвышаную рэлігійную ўрачыстасьць, якая ахапіла таксама і суседнія вёскі ды колектывы. Тая самая прэса паведамляе, што людзі старэйшыя, якія помняць часы, калі можна было адкрыта вызнаваць сваю веру, плакалі, а маладыя прылучаліся да працэсіі.

Хоць і не знаходзіцца ў сувязі з вышэй напісаным, але зьяўляецца вельмі паказальным факт, што ў ліпні месяцы с. г. ўжо пачаліся рэстаўрацыйныя работы па аднаўляньню дзьвёх маскоўскіх цэркваў, якія паходзяць з XVII веку. Можа гэта робіцца і на эфэкт, каб паказаць вялікай масе турыстаў, якія з кожным разам усё больш і больш адведваюць Маскву, што ў Саветах няма рэлігійнага прасьледваньня, а можа ў гэтым крыюцца і глыбейшыя прычыны?

**(КАП)**



# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Львоў (КАП). Новае грэка-каталіцкае япіскапства.** Грэка-каталіцкая прэса („Нова Зоря" № 60) паведамляе, што ўва ўсходняй часьці Закарпацкае Русі будзе ў хуткім часе ўтворана новая грэка-каталіцкая епархія з сядзібай у Гушце. Чэхаславацкі ўрад выказаў сваю згоду на ўтварэньне япіскапства. Кандыдатам на япіскапа новае епархіі называюць а. Хіра. У сувязі з утварэньнем новае епархіі праектуецца падвышэньне япіскапства ў Ужгорадзе да ступені архіяпіскапства і мітраполіі.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Бэрлін (КАП). Голас 20-цёх нямецкіх япіскапаў.** Падаём некаторыя месцы з колектыўнага пастырскага пісьма нямецкіх япіскапаў. Пісьмо гэтае мела быць прачытана з амбонаў 29 чэрвеня с. г. ў дзень урачыстасьці сьвв. Апосталаў Пётры і Паўла, але прачытаньне яго было адкладзена на пазьнейшы час з прычыны перагавораў аб выкананьні конкордату, якія тады адбываліся. З пастырскага пісьма б'е рашучасьць і сільная воля нямецкага япіскапату ў абарону хрысьціянскіх асноваў. У пісьме, паміж іншым, гаворыцца:

„П р о ц і Р ы м у. — Тыя, хто хоча даць нам нацыянальную царкву імкнуцца да адарваньня нас ад Рыму, ад Пятровае скалы, на якой Хрыстос, Сын Божы, збудаваў Сваю Царкву. Калі праўда тое, што, — як цьвярдзяць гэтыя новыя паганцы, — асновы веры трэба бачыць у „крыві і расе", што „кроў і раса" пастанаўляе аб рэлігіі, дык дзяржава, як зграмаджаньне грамадзян, заняло-б месца Царквы, як грамады верных. Дзяржава рэгулявала-б усе адносіны паміж людзьмі, дзяржаўнай уладзе падданымі былі-б усе правы чалавечае асобы, правы сям'і, ува ўсіх чалавечых зграмаджаньнях. Гэта нэопаганская доктрына ёсьць ня чым іншым, як абсолютным і радыкальным запярэчаньнем хрысьціянізму ў цэласьці яго навукі, яго моральнасьці, у паўнаце яго ласкі".

...„Усё, чаго мы вымагаем — гэта захаваньне правоў Божых, гэта — магчымасьць ужываньня Хрыстоваю Царквою патрэбных дзеля выхаваньня моладзі сучасных сродкаў. Але адкідаем і асуджваем нэопаганскую доктрыну, якая імкнецца парваць з тысячалетняю традыцыяй і пагражае нашаму народу страшэнным паніжэньнем".

**Парыж (КАП). Новыя цудоўныя выздараўленьні ў Люрдзе.** У часе сёлетняй вялікай францускай нацыянальнай пілігрымкі ў Люрд, у якой было каля 40 тысяч чалавек, афі-

цыяльнае лякарскае бюро пацьверджаньняў у Люрдзе ізноў зрэвідавала дванаццаць асобаў, якія ў леташнім годзе адчулі на сабе цудоўнае выздараўленьне.

У гэтым годзе асаблівае ўвагі заслужваюць тры вылячэньні. Першае з іх датычыць Ізыдара Beaugot з епархіі Лявaль, прызнанага яшчэ ў 1932 годзе, з прычыны нарыву ў жываце, за 60-проц. інваліда. Стан хворага ў мамэнт прыбыцьця ў леташнім годзе да Люрду быў настолькі цяжкім, што яго незабаўна трэба было памясьціць у шпіталі. Стан гэты прайшоў бясcьледна, пасьля пагружэньня ў ваду з цудоўнае крыніцы, і адбылося вылячэньне. Другі факт цудоўнага вылячэньня датычыць 12-гадовага дзіцяці, пакрытага верадамі і хворага на сухоты; пасьля пагружэньня ў саджалку гэтага дзіцяці на ім адразу згінулі верады і прапала іншая, зьвязаная з хваробаю, слабасьць. Нарэшце трэцяе выздараўленьне занатована ў выпадку з сястрой Марыяй Эмануэляй, ігуменьяй СС. Францішканак у Кальвадос. Прывезеная ў Люрд у стадыі вельмі моцных сухотаў, аслабеўшая настолькі, што яна не магла ўжо падняцца і прымаць яды, пасьля візыты ў Гроце, с. Марыя пачула сябе так добра, што на ўласных нагах магла пайсьці ў лякарскае бюро пацьверджаньняў.

**Вашынгтон (КАП). Рэвалюцыйны рух у Амэрыцы.** Побач з выразным поступам рэлігійнага жыцьця ў Злучаных Штатах, робіць поступ і рэвалюцыйны рух. Апошнім часам п. Альжбета Дільлінгер выдала цікавую працу на тэму „The Red Network“ (Чырвоная сець). У кніжцы гэтай аўторка, ссылаючыся на дакумэнты, апісвае 460 прыкладаў з анарха-камуністычнага руху і падае біографіі 1300 павадыроў рэвалюцыйнага руху. Бальшавіцкая атрута гэтак хутка і глыбока пранікае на амэрыканскі континэнт, што людзі, якія прывыклі думаць, трывожна пытаюцца, ці здаровыя моральна элемэнты будуць мець сілу ўратаваць народ. З кніжкі п. Д. даведваемся аб цэлым радзе страшных падробнасьцяў. Вольнадумцы выдалі 180 працаў проці рэлігіі ў ліку 50 тысяч экзэмпляраў. Вось найцікавейшыя з іх: Жыд Жозэф Левіс, які называе сябе „ворагам Бога“, напісаў „Здэмаскованую Біблію“, зьневажаючы сьвятасьць Госпада Ісуса Хрыста. Гэрбэрт Асбуры, унук „біскупа“ мэтодыстаў, ёсьць аўторам іншае „Ілюстрованае Камічнае Бібліі“, празначанае для школьных настаўнікаў. Спэцыяльнае „Антырэлігійнае Таварыства“, маючы бюджэт у 83 тысячы даляраў, паставіла сабе мэтаю дыскрэдытацыю Сьв. Пісаньня. У сувязі з гэтым адзін пратэстанскі саноўнік злажыў 50 даляраў на дармовае распаўсюджваньне выданьняў гэтага т-ва ў летніх лягерох камуністаў. Нейкі прафэсар біолёгіі ахвяраваў 100 даляраў на досьледы, якія маюць мэтаю атрымаць патомства з малпаў і людзей...

Увесь гэты сатанінска-бязбожніцкі рух карыстаецца толеранцыяй і нават падтрыманьнем з боку сэктанскіх уладаў. Значны лік „чырвоных пастораў“ нават на амбонах дае месца агентам Масквы.

Як відаць з усяго гэтага, дык грунт дзеля прызнаньня Саветаў Злучанымі Штатамі быў добра падрыхтованы.

**Мадрыд (КАП). Яшчэ адзін праціўнік царквы навернены.** На сьмяротным ложы прымірыўся з Царквою д-р Mouriz, б. соцыялістычны дэпутат. Ён быў сябром Кортэзаў (парлямэнту) і актыўна выступаў у проціцаркоўнай палітыцы соцыялістычнае фракцыі.

**Нью-Іорк. (Кап). Навярненьні ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах.** Цяпер зьведзена дакладная статыстыка навярненьняў да Царквы на абшары Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў, абапёртая на цыфрах, пададзеных паасобнымі Япіскапскімі Ардынарыятамі за 1933 год. Цыфры гэтыя выказваюць 60.322 асобы наверненых да Каталіцкае Царквы ў апошнім годзе. Гэта азначае прырост на 13.881 у параўнаньні з 1932 годам.

**Варшава (КАП). 400-лецьце Ордэну АА. Езуітаў.** 15-га жніўня сёл. году споўнілася 400 гадоў ад часу, калі сьв. Ігнацы Лёйоля разам з некалькімі выбранымі таварышамі ў няістнуючай сяньня капліцы Сэн-Дэніс на Монтмартры ў Парыжы злажыў першыя манашаскія абеты. Гэты памятны мамэнт лічыцца запраўды нарадзінамі Таварыства Ісусавага, хоць новая арганізацыя зацьверджана была толькі праз шэсьць гадоў пасьля гэтага бульляю Паўла III „Regiminis militantis“ 27 верасьня 1540 году. Таварыства Ісусава мае ў цяперашнім юбілейным годзе 43 провінцыі, з якіх дзьве польскія (ў Варшаве і ў Кракаве). Усяго сяброў у Таварыстве Ісусавым 23.673, з чаго 10.353 сьвяшчэньнікі, 8.273 клірыкі і 5.047 братоў-манахаў. АА. Езуіты працуюць на місійным абшары ў Азіі, Афрыцы і на астравох Акеаніі ў 46 місійных акругох. Агульны лік місіянэраў Таварыства Ісусавага — 2.959 асобаў. З гэтага ліку 1.716 сьвяшчэньнікаў, 664 клірыкі і 579 братоў манахаў. У Афрыцы працуе самастойная Апостальская Прэфэктура польскіх Езуітаў у Родэзіі.

**Рым (КАП). Місіі Таварыства Ісусавага ў 1933 годзе.** АА. Езуіты працавалі ў 1933 г. ў розных часьцях сьвету: у Эўропе, Азіі, Афрыцы, Амэрыцы, Аўстраліі; на Філіпінскіх астравох, у Голяндзкай Індыі, на Каролінскіх астравох і г. д. Іх місійны абшар налічваў агулам 195.293.048 жыхароў. Лік АА. Езуітаў-місіянэраў — 3.014, з іх: сьвяшчэньнікаў 1790 (1.572 чужаземцы і 218 туземцаў), схолястыкаў 714 (431 чуж., 283 тузем.), братоў-коад'ютараў 600 (417 чужаземцаў 183 тузем.). Памагаў ім у працы вялікі пэрсональ, не належачы да ордэну Езуітаў: сьвяшчэньнікаў 517 (102

чуж. і 415 тузем.), братоў 509 (327 чуж. і 182 тузем.), сёстраў 4.664 (2.292 чужаземкі і 2.372 туземкі), катэхістаў і вучыцялёў 22.347 (16.292 мужчын і 6.221 жанч.). Апрача гэтага маюць яны 1.960 сэмінарыстаў, з якіх 1.327 у малых сэмінарыях і 633 у вышэйшых сэмінарыях. Місіі АА. Езуітаў лічылі агулам 2.792 ахрышчаных каталікоў і 252.044 катэхумэнаў. У працягу 1933 г. ахрышчана 39.540 дарослых, 117.852 дзяцей і 92.409 асобаў, загрожаных сьмерцяй, багаслаўлена 23.090 малжэнскіх шлюбаў і дана 25.581 Сьв, Прычасьце.

Школаў АА. Езуітаў на місіях ёсьць 11.659 з 484.123 вучнямі. Яны дзеляцца на: школы катэхічныя — 7.549 з 154.658 вучнямі, школы пачатковыя — 3.511 з 234.371 вуч., школы сярэднія — 366 з 41.125 вучнямі, вышэйшыя прафэсіянальныя школы — 130 з 26.223 студэнтамі, унівэрсытэтаў і унівэрсытэцкіх колегіяў ёсьць 13 з 9.008 студэнтамі. Да гэтага трэба дадаць: 112 сіроцкіх дамоў з 11.137 сіротамі, 32 шпіталі на 3.826 ложкаў, 392 амбуляторыі, у якіх лячылася ў 1933 годзе 2.389 хворых, 20 друкарняў і 69 часопісаў.

**Парыж (КАП). Выступленьне магістра Вялікае Лёжы з масонэрыі.** Адзін з выдатных францускіх масонаў Альбэрт Віньо прыслаў нядаўна ў управу арганізацыі сьвяшчэньнікаў б. комбатантаў пісьмо, паведамляючы аб тым, што ён выйшаў з масонэрыі.

„Ужо некалькі месяцаў, магу сказаць, некалькі гадоў — піша, паміж іншым, Альбэрт Віньо, — я блага сябе чуў у атмосфэры масонскіх лёжаў. Быў я сябром Вялікае Францускае Лёжы. І ўжо ад першага году майго прабываньня ў масонэрыі я быў ашуканы“...

**Нью-Іорк (КАП). 70 мільёнаў паганцаў у Злучаных Штатах.** Вялізарнае ўражаньне выклікала ў Амэрыцы прамова япіскапа Нольля з Форт-Вайн (штат Індыяна), сказаная нядаўна па радыё на тэму паганства ў Злучаных Штатах. Прамоўца сьцьвярдзіў, што ў Злучаных Штатах жыве 70 мільёнаў паганцаў, г. зн. людзей, якія ня маюць нават элемэнтарных рэлігійных падставаў, а рэлігійныя перакананьні іншых людзей ня маюць ніякага ўплыву на паступаньне гэтых 70-цёх мільёнаў новачасных паганцаў.

— Праўда, у эўропэйскіх дзяржавах, — выводзіў далей япіскап Нольль, — маем адстрашваючы прыклад, што гэткі рэлігійны індыфэрэнтызм вядзе з часам да поўнага пазбыцьця рэлігіі і да дэструкцыйнага радыкалізму, але Амэрыка ёсьць надта ляніваю ў гэтай галіне, каб зрабіць належныя вывады з эўропэйскіх дасьведчаньняў.

Гэткі стан ёсьць рэзультатам недахопу навучаньня рэлігіі ў школах.

**Ватыкан (КАП). Школы ў Манджуго і каталікі.** Новы манджурскі ўрад, аддаючы шмат увагі народнай асьвеце, пачаў арганізаваць падставы школьніцтва, бяручы за норму адну школу на 150 сем'яў. Акцыя ўладаў трапляе на вялікія труднасьці, перш за ўсё, фінансавага характару, таму што доўгія гады неспакою, войнаў і рэвалюцыі выціснулі з жыхароў блізка што ўсе грошы.

Цяпер Манджуго (даўнейшая Манджурыя і правінцыя Джэголь) налічвае каля 30 мільёнаў жыхароў. Край падзелены на 9 царкоўных акругоў, у якіх каталіцкія місіянэры ўтрымліваюць сваім коштам сотні школ для хлопцаў і дзяўчат. У апостальскіх вікарыятах Мікдэну і Кірым (заграгранічныя міссі Парыжу) 102 школы з 3.382 вучнямі; у апостальскім вікарыяце Шэпінгкаі (канадзкія місіянэры) 21 школа з 533 вучнямі; у апост. вікар. Джэголь (бэльгійскія місіянэры) 26 школ з 639 вучнямі; у апостальскай прэфэктуры Фушум (амэрыканскія місіянэры) 25 шк. з 433 вучнямі; у апост. прэфэктуры Йенкі (баварскія бэнэдыктыны) 49 школ з з 2.089 вучнямі; у апост. прэф. Цыцыкар (швайцарскія місіянэры) 52 школы з 2.721 вуч.; у апост. прэфэктуры Хіфэнг (туземнае духавенства) 15 школ з 475 вучнямі і ў місіі Ілян (тырольскія капуцыны) 3 школы з 70 вучнямі, а разам 293 школы з 10.342 вучнямі.



**Дом С.С. Місіянэрак у Бэрэзьне на Валыні.**

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Лепш памёрці, як адрачыся ад свае веры.

Адзін місіянэр з Кітаю расказвае пра гэткае здарэньне:

У часе апошняга прасьледаваньня ў Танк-Гоа, быў злоўлены адзін хлопчык, Паўлік Мэі. Прыведзены да мандарына, ён адважна прызнаўся, што ёсьць хрысьціянінам. Мандарын палюбіў хлопчыка за яго адвагу і жадаў прывясьці яго да адступніцтва ад Веры. Абяцаў даць яму сярэбраную палку, калі адрачэцца ад свае Веры.

— Вялікі мандарыне, — адказаў Паўлік, — сярэбраная палка — гэта вельмі мала.

— Дык добра, дам табе гэткую палку з золата.

— І гэта яшчэ мала.

— Дык чаго-ж ты хочаш, нягодны хлопча?

— Вялікі мандарыне, — пачуўся адказ, — калі ты хочаш, каб я адрокся ад свае хрысьціянскае веры, дык ты павінен даць мне гэтулькі, колькі патрэбна, каб я мог купіць сабе іншую душу, як загублю гэтую.

Праз некалькі дзён Паўлік быў сьцяты і пайшоў па нагароду да Госпада.

Гэты кітайскі хлопчык — праўдзівы гэрой, бо ён палічыў за лепшае памёрці, чымсь адрачыся ад свае веры і загубіць душу навекі.

---

## За што?

(Канец. Гл. № 9 „Да Злучэньня").

Час ішоў, праходзіў...

Аднойчы маці пабагаславіла Юрку і сказала:

Юрачка, сынок мой, сяньня ідзеш ты ў школу. Тамака шмат „злых“ людзей, але ты застанься добрым і помні — Матка Божая абароніць цябе.

З матчынай любоўю павесіла на шыю Юрцы мідальён з воблікам Маткі Божае. З гэтага часу не праходзіла дня, каб Юрка не зьвяртаўся да Маткі Божай з гарачаю малітваю. Гэта была для яго другая, нябесная Маці. У малітве ён усё Ёй казаў, адкрываў Ёй усё сваё дзіцячае сэрца.

Але як перамяніўся Юрка з тае пары, калі ішоў у школу! Тамака нельга было гаварыць аб Богу, аб Матцы Божай, Якую ён гэтак моцна любіў!.. Маці вучыла яго, што Бог на кожным месцы, усё бачыць і чуе, а там самі вучыцялі вучаць, што, Бога няма, сьмяюцца над Маткай Божай, а калі заўважаць, што хто-небудзь перажагнаўся — страшэнна б'юць розгамі. Юрка мучыўся... Яго далікатная чыстая, дзіцячая душа не магла зразумець гэтае чартоўскае працы бальшавікоў, якія хацелі вырваць Бога з дзіцячай душы. А Юрка Яго гэтак любіў!.. У школе ўсё больш ды больш прыгняталі дзяцей, не пазвалялі думаць нават аб Богу. Бедны Юрка не разумеў, што з ім робіцца... У хаце мама тая самая, як і раней, так сама вучыла яго аб Богу, любіць усіх, дараваць усім крыўды, а ў школе... іконаў, крыжа няма!.. Усе злыя, невясёлыя, сумныя, вучыцялі крычаць і толькі гавораць аб тым, што Бога няма, і б'юць дзяцей. О, як Юрка мучыўся!.. Як маленечкая птушка, біўся ён у гэтай цеснай, агіднай клетцы, чым больш крычалі, адкідвалі Хрыста і Матку Божую, дык ён усё больш і больш сьціхаў, ад'адзіняўся і глыбока ў сваёй душы хаваў, як скарб, гэту цудоўную думку аб Богу і аб Матцы Божай, Якая для яго была ўсё даражэйшаю і бліжэйшаю, з Якою ён гэтак шчыра і сардэчна гаварыў і зжыўся...

Прыходзячы да хаты, ён туліўся да матчыных грудзей, расказваў усё, а маці так разумела яго, пясьціла, казала, каб ён верыў Богу і Матцы Божай, што ўсё пераменіцца, што трэба за ўсіх маліцца. І часта яны разам маліліся... Юрка зрабіўся яшчэ больш паважным і яшчэ больш і глыбей веруючым.

Адноўчы, калі вучыцялі гэтак страшэнна зьдзекаваліся над Імем Хрыста, а таварышы пацьвярджалі гэта, ён ціха туліў да грудзей свой мідальён Маткі Божае і шаптаў малітву. Яго заўважылі.

— Чаму ты не гаворыш з намі? — закрычалі яму.

Юрка маўчаў.

— Ты мусіш рабіць тое самае, што і мы! Што ты трымаеш рукою на грудзёх?

Юрка маўчаў, толькі вельмі зьбялеў... У гэты час выйшаў вучыцель і сказаў:

— Выйдзі наперад і пакажы, што там маеш?

Юрка ня рушыўся з месца.

— Выйдзі, кажу табе! — сказаў вучыцель і дадаў да гэтага брыдкае слова.

Юрка выйшаў, тулячы да грудзей мідальён...

— Пакажы!

Юрка сударгава туліў руку.

— Не пакажаш?!

Таварышы кінуліся да яго і пачалі адрываць рукі ад грудзей, але ня лёгка гэта ім было. Тады падбег вучыцель, той самы, што гэтак абражаў Хрыста.

— Пакажы, бо заб'ю, як сабаку! — крыкнуў ён. Але Юрка маўчаў. Ня доўга думаючы, вучыцель разадраў каўнер Юрыку і ўсе ўбачылі на грудзёх мідальён.

Юрка схапіў мідальён і апошнімі сіламі хацеў яго схаваць, але было ўжо запозна. Вучыцель схапіў яго, сарваў з Юркавай шыі, кінуў на зямлю і пачаў таптаць яго нагамі з дзьябальскім сьмехам... Юрка кінуўся, каб схапіць мідальён, але ў гэты час сталася нешта страшэннае: бальшавік-вучыцель размахнуўся і ўдарыў у грудзі Юрку. Нешта хруснула ў яго ў грудзёх, Юрка ціха застагнаў і ўпаў, моцна ўдараючыся галавою аб падлогу, а з губаў пацякла тоненькая струя крыві. Усе разьбегліся... Прайшло некалькі гадзін... Сторож прыйшоў прыбраць школу і знайшоў Юрку, ляжаўшым няпрытомна ў крыві. Знаў ён яго, але нічога ня ведаў аб тым, што тутка здарылася і шкадуючы занёс яго да беднай маткі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ціха ляжыць Юрка на ложку, рэдка і цяжка дыхае... расплюшчыў вочы і ўбачыў сваю маму, якая стаяла на каленах каля яго ложка, прытуліўшы да грудзей руку сына-мучаніка.

— Мама... — ціха шэпча ён.

— Сынок мой, маленечкі...

— Мама... за што?¡... Бог дараваў... і... я... дарую... Мама... Гэтак мне добра... іду... Матка Божая...

Бедная маці, у вялікім горы, абняла слабеўшага сына, глядзіць яму ў вочы, а твар яго раптам прасьвятляецца, зьяўляецца на ім нейкі незямны блеск і шчасьце, ён глядзіць кудысьці ў далечыню чыстым, ясным паглядам, і маці бачыць — ён усьмяхаецца, а губы шэпчуць:

— Матка Божая... Ма...

У гэты мамэнт струя крыві пацякла з губаў, а цела бяспомачна ўпала на рукі няшчаснае маткі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Душа яго ціха адыйшла да неба... нясьлі яе ангелы да пасаду Бога, Якога Юрка гэтак любіў, а Маці Божая сустрэла яго сваім матчыным сэрцам...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А вы, дарагія дзеткі, каторыя маеце магчымасьць і свабоду прыходзіць так часта, як толькі захочаце, да Ісуса Хрыста да царквы і прымаць Яго ў сваю душу, — што вы

скажаце, бачачы гэты прыклад мучаніка Юркі, які гэтак любіў Хрыста і Матку Божую, гэтак жадаў Бога, і гэтае жаданьне дало яму моц згінуць мучанікам за веру?! Што зрабілі-б? Што вы мусіце паправіць у сваім жыцьці, каб калісь даць добры адказ перад Богам за сваё жыцьцё?!...

Падумайце і папраўце — Бог чакае... Ён гэткі Добры!..

## Усячына.

— **На 15.400 мэтраў вышыні** падняўся аэраплянам італьянскі лятун Донаті. Тэмпэратура на гэтай вышыні 46 градусаў ніжэй за ноль.

— **Тунэль каля 22 кілёмэтраў даўжыні** выбудаваны ў Японіі, які зьяўляецца найдаўжэйшым на сьвеце. Найдаўжэйшы эўропэйскі тунэль Сымплёнскі мае 19.803 мэтры.

— **Найбольш хлеба зьядаюць** у Бэльгіі, бо на кожнага жыхара за год прыпадае аж 273 кілёграмы хлеба.

— **Нэгрыцянка 127 гадоў памёрла ў Амэрыканскім горадзе Місісіпі.** Калі скасована было ў Злучаных Штатах рабства, дык яна ўжо была бабкаю; да познае старасьці захавала нязвычайна ясную памяць.

— **У Бразыліі ёсьць камень** італолюміт, які можна гнуць на ўсё бакі, бо камень гэты зусім не ламаецца.

— **Дзяржаўных урадвікаў ёсьць у Польшчы** каля 321 тысячы, да гэтага даходзяць 144 тысячы чыгуначных працаўнікоў, або разам 465 тысяч. У гэтым ліку ёсьць каля 61 тысячы прафэсіянальных вайсковых. Разам з сем'ямі ураднікі складаюць 6 проц. усяго насяленьня Польшчы.

— **Залеглыя падаткі беспасярэднія,** паводле апошніх даных, павялічыліся ў Польшчы на 21 проц., дасягаючы разам з самаўрадовымі належнасьцямі цыфры 1 мільярда (тысяча мільёнаў) злотых.

— **Загранічных пашпартоў выдана ў Польшчы:** у 1930 г. — 114.246, у 1931 г. 86.344, у 1932 г. — 43.501, і ў 1933 г. толькі 30.540.

— **У Токіо (Японія)** памёр пераможца расейцаў пад Цусімай ў часе японска-расейскае вайны адмірал Того. Пахавіны яго абярнуліся ў вялікую нацыянальную маніфэстацыю.

— **Нязвычайную электрычную лямпачку** збудавала адна нямецкая электра-тэхнічная фабрыка. Лямпачка мае 90 см. вышыні і 38 см. шырыні, сьвятла дае яна столькі, колькі 2.750 лямпачак такіх, якія цяпер нармальна ўжываюцца.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м-ц Кастрычнік 1934 г.

| Стары стыль | | | Новы стыль | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. | | |
| 1 | Н | **Н.20 п. П. Пакроў Пр. Б.** | 14 | N | Kaliksta. Ewarysta |
| 2 | П | Кіпрыяна | 15 | P | Jadwihi. Taresy |
| 3 | А | Дзяніса | 16 | A | Martynijana. Saturnina |
| 4 | С | Ерафея | 17 | S | Wiktara. Jadwihi. Marh. |
| 5 | Ч | Харытыны | 18 | Č | *Łukaša Ewanhielista* |
| 6 | П | Ап. Тамаша | 19 | P | Piotry |
| 7 | С | Сяргея | 20 | S | Jana. Ireny. Marty |
| 8 | Н | **Н. 21 па П.** Палагеі | 21 | N | Uršuli. Hilaryjona |
| 9 | П | Ап. Якава | 22 | P | Brunona. Marka. Filipa |
| 10 | А | Яўлампія | 23 | A | Jana. Hermana. Sewer. |
| 11 | С | Піліпа | 24 | S | Rafała Archanieła |
| 12 | Ч | Прова | 25 | Č | Kryśpina. Chryzanta |
| 13 | П | Муч. Карпа | 26 | P | Ewarysta |
| 14 | С | Параскевы | 27 | S | Sabiny. Florencyi |
| 15 | Н | **Н. 22 п. П.** Лукьяна | 28 | N | Symona. Tadeuša. Anast. |
| 16 | П | Лёнгіна сотніка | 29 | P | Narcyza. Felicyjana |
| 17 | А | Андрэя | 30 | A | Alfonsa. Hermana |
| 18 | С | Ап. Лукі | 31 | S | *Wihilija.* Alimpii |
| | | | | | LISTAPAD |
| 19 | Ч | Іоіля | 1 | Č | *Usich Światych* |
| 20 | П | Арцема вм. | 2 | P | *Zadušny Dzień.* Juryja |
| 21 | С | Іларыёна Вял. | 3 | S | Huberta. Hilara |
| 22 | Н | **Н. 23 п П.** Глікерыі | 4 | N | Karola Baramieja. Witał. |
| 23 | П | Ап. Якава | 5 | P | Zachara i Alžbiety |
| 24 | А | Арэты | 6 | A | Leanarda. Feliksa |
| 25 | С | Маркіяна | 7 | S | Nikandra. Antona. Ern. |
| 26 | Ч | Дзімітра В. | 8 | Č | Hodfryda. Maŭra |
| 27 | П | Нестара | 9 | P | Todara. Alaksandra |
| 28 | С | Параскевы | 10 | S | Andreja |
| 29 | Н | **Н. 24 п. П.** Анастасіі | 11 | N | Marcina. Baŭtramieja |
| 30 | П | Зіновія | 12 | P | Marcina. Benedykta. Jana |
| 31 | А | Стахея | 13 | A | Stanisława Kostki. Aŭh. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.